


# Навіны
Беларускага Народнага Фронту
«АДРАДЖЭНЬНЕ»

4'1991

Выдаецца са сьнежня 1988 г. Кошт 59 кап.

















Малюнак Мікалая Чаркасава

ІНТЭРВІЮ

# Аляксандар ЛУКАШЭНКА: Камуністычная ідэялёгія ня мае пэрспэктывы

***Заява народнага дэпутата Аляксандра Лукашэнкі аб утварэньні фракцыі «Камуністы Беларусі за дэмакратыю» сталася новым чыньнікам у палітычным жыцьці Рэспублікі. Лідэр новай фракцыі А.Лукашэнка адказаў на пытаньні нашай газэты***

**«Навіны»: Сп. Лукашэнка, што стала прычынаю ўзьнікненьня парлямэнцкае фракцыі «Камуністы Беларусі за дэмакратыю»?**

**А. Лукашэнка:** Найперш трэба мець на ўвазе, што гэта група цэнтрысцкага характару. Думка пра яе стварэньне ўзьнікла яшчэ на мінулай сэсіі ВС. Ужо тады аформіўся невялікі цэнтрысцкі блёк. Аднак да апошняга моманту мы спадзяваліся на мажлівасьць кансалідацыі й вагаліся адносна афіцыйнае заявы аб утварэньні фракцыі. Але ў сувязі з узмацненьнем крытыкі кампартыі, паводле якой усе камуністы былі прычасаныя пад адзін грэбень і выглядалі як злачынцы, мы вырашылі адмежавацца ад тых, хто заслугоўвае гэтых папрокаў, а менавіта, ад ЦК КПБ і асабліва ад ягоных лідэраў.

Другой прычынаю стала пагроза аднаўленьня дыктатуры ЦК КПБ, якая ўзьнікла на гэтай сэсіі ВС у сувязі са зьместам унесеных на яе разгляд законапраектаў, у прыватнасьці, законапраектаў пра ўвядзеньне інстытуту прэзідэнцтва, пра надзвычыйнае становішча й пераразьмеркаваньне паўнамоцтваў вышэйшых органаў выканаўчае ўлады, а таксама патрабаваньнем надзвычайных паўнамоцтваў для Саўміну.

(Працяг на стар.3)

 





Аляксандар ЛУКАШЭНКА:

# Камуністычная ідэялёгія ня мае пэрспэктывы

(Працяг са с

Паўплывала таксама заява Анатоля Малафеева пра магчымае ўвядзеньне надзвычайнага становішча ў Рэспубліцы. Усё гэта дало падставу мне й маім калегам заявіць пра тое, што насоўваецца дыктатура і прымусіла нас зрабіць заяву аб утварэньні фракцыі «Камуністы Беларусі за дэмакратыю».

Трэба было неадкладна разламаць фронт ЦК КПБ, ня даць зьявіцца кішэннаму прэзідэнту. Да прыняцьця адказнасьці на сябе нас падштурхнуў і спад рабочага руху, які акрыліў кансэрватыўнае крыло дэпутацкага корпусу. Гэта быў сапраўды пераломны момант, які мы здолелі скарыстаць у імя дэмакратыі.

**«Навіны»: Сапраўды, фронт ЦК КПБ Вашая заява разламала. І гэта ня будзе даравана.**

А.Л.: У партыйных групах абласьцей распачатая кампанія цкаваньня тых, хто падпісаў заяву, апарат ня грэбуе ніякімі сродкамі, у тым ліку й запалохваньнем.

**«Навіны»: Можа Вы прывядзеце канкрэтныя прыклады ўціску на Вашых калегаў?**

А.Л.: Некалькі дзён таму адбылося паседжаньне магілёўскае партыйнае групы, пад час якога першы сакратар аднаго з райкамаў, які не зьяўляецца дэпутатам, заявіў: «Вы што думаеце, я тут дарэмна сяджу? Не, я ўсё бачу. Мы паінфармавалі пра Вашую пазіцыю ўсе райкамы й гаркамы партыі». Гэта пры тым, што дэпутаты-камуністы, якія падпісалі заяву, ішлі на выбарах не па партыйным сьпісе, а на агульных падставах. Дарэчы, пад час выбарчае кампаніі партапарат выступаў супраць мае кандыдатуры. Дэпутат, на маю думку, павінен абараняць інтарэсы выбаршчыкаў, а ня вузка партыйныя інтарэсы.

**«Навіны»: Ці лічыце вы камуністычную ідэялёгію пэрспэктыўнай?**

А.Л.: Я-б не хацеў казаць пра камуністычную ідэялёгію ўвогуле. Скажу толькі, што ў ёй, як і ў ідэялёгіях іншых партыяў, у тым ліку й БНФ, ёсьць як станоўчае, так і адмоўнае. Сёньняшні камунізм ЦК КПБ не адпавядае прынцыпам, якія былі закладзеныя клясікамі, якія мы засвоілі з малаком маці. Мы сёньня прыйшлі да разуменьня таго, што дзяржаўную ўласнасьць на сродкі вытворчасьці павінна зьмяніць прыватная. Толькі так мы здолеем вярнуць гаспадара. Адыход ад камуністычных догмаў дыктуе само жыцьцё. Па шчырасьці, я ўпэўнены, што ў цэлым гэтая ідэялёгія беспэрспэктыўная.

**«Навіны»: Скажыце, калі ласка, які сацыяльны склад Вашае фракцыі?**

А.Л.: Гэта перш-наперш людзі, якія ня цярпяць скрайнасьці, якія зьяўляюцца прыхільнікамі ня нейкага там бальшавізму, а эвалюцыі, палітыкі рэформаў. Што датычыцца іх сацыяльнага складу, дык гэта пераважна людзі ад зямлі, а таксама кіраўнікі прамысловасьці.

**«Навіны»: Ці ёсьць сярод Вашых прыхільнікаў работнікі партыйнага апарату?**

А.Л.: Аб'ектыўна, акрамя 33 дэпутатаў, якія падпісалі заяву аб уваходжаньні ў групу, ёсьць яшчэ 17 чалавек з партыйнага й дзяржаўнага апарату, якія падтрымліваюць нас, не заяўляючы пра гэта адкрыта. Мы супрацоўнічаем зь імі, але зь меркаваньняў абачлівасьці пакуль нідзе не афішуем іхнія імёны.

**«Навіны»: Хутка пасьля абвяшчэньня заявы «Камуністаў за дэмакратыю» пайшлі чуткі, што прозьвішча Станіслава Шушкевіча да апошняга моманту стаяла пад гэтым дакумэнтам. Ці так гэта?**

А.Л. Я павінен сказаць, што С.Шушкевіч – цьвёрды прыхільнік нашае групы й тых поглядаў, пра якія мы заявілі. Тым больш, што працэс далучэньня да нашае фракцыі працягваецца.

**«Навіны»: Вас не палохае пэрспэктыва выключэньня з КПСС?**

А.Л.: Я нічога не баюся, але мне непрыемныя самі гэтыя звадкі, і я ня думаю, што нашыя партыйныя лідэры дойдуць да таго, што паставяць пытаньне аб выключэньні з партыі А.Лукашэнкі й другіх камуністаў, якія стаяць за мной. У дадзеным выпадку дзеля гэтага няма ніякіх падставаў.

Стварэньне парлямэнцкае групы – гэта нашае законнае права, запісанае ў новым праекце арганізацыйнае дзейнасьці партыі ў сучасных умовах. Паводле Статуту КПСС (а пры адсутнасьці ўласнага мы падпарадкоўваемся яму), камуністы маюць права аб'ядноўвацца ў дэпутацкія групы (фракцыі). І мы стварылі такую групу. Яны-ж затрымцелі ад таго, што гэта можа прывесьці да расколу ў партыі. Даруйце, але гэта будзе вырашаць ня фракцыя, а самі камуністы. А калі права дэкляраванае, дык давайце ім карыстацца. Што такое сацыялізм і дзе ягоны правобраз? Чалавеку трэба жыць спакойна, а мы замест гэтага падкідаем розныя ідэялягічныя гульні.

**«Навіны»: А калі-б Вас выключылі з КПСС, якую-б партыю Вы абралі?**

А.Л.: Мы створым сваю народную партыю.

**«Навіны»: Вашае стаўленьне да саюзнае дамовы?**

А.Л.: Я – эканаміст, і таму лічу, што падпісвай, не падпісвай – мы ўсё-роўна захаваем Саюз, нас прымусіць да гэтага эканамічная мэтазгоднасьць. У той самы час я выступаю за палітычную самастойнасьць.

**«Навіны»: Але як можна захаваць палітычную самастойнасьць у фэдэратыўным саюзе?**

А.Л.: Да канфэдэрацыі я пакуль не сасьпеў.

Запісала Ірына ЛАЗОЎСКАЯ.

## СТЭНАГРАМА





Анатоль МАЛАФЕЕЎ:

Это вопрос скорее внутрипартийного порядка, но оставить без внимания его заявление и попытки глумления пад партией я просто не имею морального права.



Зянон ПАЗЬНЯК:

Я асабіста лічу, што вас ужо нішто не выратуе – ні камуністы за дыктатуру, ні камуністы за дэмакратыю. Занадта шмат зла вы прынесьлі на гэты сьвет.

**21 чэрвеня, на сэсіі ВС БССР, у адказ на чарговы выпад партгрупы А.Лукашэнка выступіў з рэзкай прамоваю. Публікуем яе зь невялікімі скарачэньнямі.**

...Мы лічым патрэбным заявіць пра нязгоду з заяваю партыйнае групы, і мы гэта зрабілі ад імя 33 дэпутатаў-камуністаў. Зараз вы зрабілі яшчэ адну заяву, і паставілі нас у такое становішча, што мы сапраўды павінны даць даведку па гэтым пытаньні. Вы, паважаны таварыш Вайцянкоў (старшыня Гомельскага аблсавету – Рэд.), хлусіце ад пачатку да канца наконт рэгістрацыі нашае групы. Вы даўно ўжо ходзіце за мною каб атрымаць яе сьпіс, ня ведаю толькі дзеля чаго.

Скажыце, таварыш Вайцянкоў, таварыш Ціхіня, таварыш Коваль (дэпутат ад вэтэранскае арганізацыі – Рэд.), навошта вам гэтыя сьпісы? Трэба, я вам, таварыш Ціхіня, іх ужо сёньня паказаў. Што вам патрэбна яшчэ? Там ужо не 33 дэпутаты, дадайце да іх яшчэ 17. Вось колькі аб'яднала сёньня нашая партыйная група. І ўвогуле, дарагія таварышы, я вам выкажу свой пункт гледжаньня. Сутнасьць вашае палітыкі, траіх, што тут сядзяць, і Вайцянкова, які далучыўся да вас, на жаль, у тым, каб дзейнічаць па прынцыпе чым горш, тым лепш для вас; тады можна ў гэтай мутнай вадзе, як вы заўсёды казалі ў бок «балота», вывудзіць тую вялікую й малую рыбу, якую вы хочаце. Гэта вы, партыйныя чыноўнікі, перш за ўсё зацікаўленыя ў развале. Ваш шлях – гэта вяртаньне да ранейшага. І паспрабуйце аргумэнтавана абвергнуць мой тэзіс. Цяпер наконт расколу. Гэта каб чалавек – юрыст, прафэсіянал, які падрыхтаваў гэтую заяву, я маю на ўвазе, высокапастаўленага чыноўніка, заяўляў аб расколе, калі мы абмяркоўвалі простую фракцыю, групу ў парлямэнце! Аб якім расколе вы гаворыце? Аб чым вы, таварыш Вайцянкоў, пра які статут партыі Вы гаворыце, пра якое антыстатутнае палажэньне, калі самога статуту няма? Гэта вы пазбавілі нашую партыю статуту.

Мы вядзем размову аб парлямэнцкай групе. Такіх многа: гэта «Саюз», «Апазіцыя», «Дэмклюб», «Цэнтар» і г.д. Чаго-ж вы спалохаліся з нагоды стварэньня нашае групы? Бо вы губляеце манаполію на розум людзей, што сядзяць сёньня ў гэтай зале. Ваш час адыйшоў. У заяве не ідзе размова аб партыйных арганізацыях як аб гультаёх, размова ідзе пра вас як пра гультаёў. Гэта вы невядома чым займаліся. Таму, мы заяўляем, што сёньня вы – нішто, што цяпер вы маеце такія-ж правы, як БНФ, Грамада й г.д. Дык навошта вы пакінулі сабе нажытую за кошт народу ўласнасьць? Аддайце яе, яна вам не патрэбная для зьдзяйсьненьня тых функцыяў, якія вызначыныя нашай праграмаю й нашым статутам. Вось у чым сутнасьць, А вы гэта кажаеце, заяўляеце аб расколе...

І апошняе, Мікалай Іванавіч. Мы хочам даць апошні шанец шчырым камуністам захаваць гэтую партыю, вырваць яе з рук кармушачнікаў, вас. Час і людзі нас рассудзяць. Вы хочаце сёньня запалохаць нас, але гэта бяздарна, мы ведаем на што пайшлі, мы ведаем, што ў нас наперадзе. Таму й беспэрспэктыўная вашая палітыка. А вам, таварыш Ціхіня, нагадваю артыкул 19 Сусьветнае Дэклярацыі аб правох чалавека: кожны чалавек мае права на свабоду пераканаеньняў, на вольнае выяўленьне іх, гэтае права ўключае права распаўсюджваць інфармацыю, ідэі любымі сродкамі й незалежна ад дзяржаўнае мяжы.

Фота Ул.Панады.

## ШМАТПАРТЫЙНАСЬЦЬ

# Новыя сацыялісты



*Для марксаўскага прывіду камунізму надыйшлі ня самыя лепшыя часы. Яго больш чым стагадовы шпацыр па Эўропе скончыўся, і на захад ад Бугу мейсца яму ўжо не засталося. Аднак, ня гледзячы на цяжкасьці лёсу, у нашай багаслаўлёнай айчыне ён пакуль адчувае сябе нядрэнна. Камунізм яшчэ трывала сядзіць у галовах і сэрцах многіх нашых суайчыньнікаў.*

Мы жылі пры камунізьме некалькі пакаленьняў. У гэты час рупліва вынішчалася грамадзянская супольнасьць, і цяпер народнай сьвядомасьці няма за што зачапіцца. Гістарычны досьвед Вялікага княства Літоўскага, БНР адсутнічае, сацыяльны досьвед іншых, нетаталітарных, паводзінаў набываецца пакутліва.

Пакуль мы ў той ці іншай ступені камуністы – нават тыя, хто называюць сябе антыкамуністамі. Справа пагаршаецца яшчэ й тым, што камунізм – і, шырэй, сацыялізм – вырастаюць з мэтафізічных асноваў чалавечага жыцьця. Камунізм ёсьць лягічна пасьлядоўнае разьвіцьцё ідэі роўнасьці, ідэі разбуральнай, антычалавечнай па сваіх выніках, але вялікай й імманэнтнай чалавечай прыродзе. Гэты прывід невыкаранялыны, як невыкаранялыныя грэх і спакуса. Прывабнасьць гэтае спакусы выяўляецца ў нашым жыцьці ня толькі на сацыяльным узроўні, але й на палітычным.

Здавалася-б, пасьля гэтулькіх год таталітарызму ў людзей павінен быў выпрацавацца трывалы імунітэт да сацыялізму наогул, але-ж не, узьнікаюць сацыялістычныя й сацыяль-дэмакратычныя партыі. Небясьпечная вера ў «добры» сацыялізм адраджаецца. Небясьпека яе ня ў тым, што ўсялякі сацыялізм падобны на наш, небясьпека ў тым, што любы сацыялізм – гэта шлях да нас. З высакароднымі праграмнымі заявамі пра волю й дэмакратыю мірна ўжываецца падтрымка народных прадпрыемстваў (ва ўласнасьці працоўнага калектыву), гучаць словы пра роўнасьць у багацьці...

Спадары, гэта марная праца – лепей усіх на сьвеце дзеляць менавіта камуністы. Справядлівей падзяліць нельга, уся краса нашага жыцьця – непасрэднае сьледзтва гэтага іхняга ўнікальнага ўменьня.

Цалкам, дарэчы, лягічна, што сацыяль-дэмакраты й не заяўляюць пра сваю апазіцыйнасьць кампартыі; ідэі круглага стала й кааліцыйнага ўраду, як шляхоў дасягненьня грамадзянскае згоды, знаходзяць сярод сацыяль-дэмакратаў гарачых прыхільнікаў. Грамадзянская згода – рэч цудоўная, але ў нашых умовах яна наўрад ці дасягальная ў бліжэйшы час. Такая згода ў дэмакратычных краінах палягае на супадзеньні асноўных каштоўнасьцяў. Такіх агульных каштоўнасьцяў (а не агульных справаў) няма ў дэмакратыі й камунізму паводле самога вызначэньня гэтых паняцьцяў.

Круглы стол у нашых умовах магчымы толькі як бяскроўны цывілізаваны, але надпарлямэнцкі й надканстытуцыйны мэханізм перадачы ўлады. Як пацьвярджае й польскі досьвед, ён магчымы толькі з пазіцыі сілы. З аднаго боку гэтага стала будзе сядзець кампартыя, якая гарантавала сабе неправавымі камуністычнымі законамі манаполію на ўладу, з другога – група грамадзянаў, альбо грамадзкая арганізацыя. Каб гэта былі перамовы роўных, неабходная народная сіла дзеля раўнавагі.

Ідэя-ж кааліцыйнага ўраду наогул уляўляецца даволі спрэчнай. У цяперашняй сітуацыі дэмакраты могуць прэтэндаваць толькі на некалькі другарадных міністэрскіх партфэляў. А ўскладаць на сябе абавязкі, ня маючы правоў і магчымасьцяў іх рэалізаваць, браць на сябе адказнасьць за дзеяньні сваіх калегаў-міністраў-камуністаў – занятак няўдзячны й беспэрспэктыўны.

Генэтычная й ідэйная блізкасьць сацыяль-дэмакратаў і камуністаў прывяла першых да ілюзіі пра грамадзянскую згоду. З камуністамі можа (і павінен) быць грамадзянскі мір, але не грамадзянская згода.

Усё сказанае вышэй адносіцца й да дэмакратычных намераў у самой КПБ. Спробы будаваць «сацыялізм з чалавечым тварам» былі гэтак шматлікія, як і безвыніковыя.

Зь ідэйнага пункту погляду наш «добры» сацыялізм і камунізм малацікавыя й небясьпечныя. Аднак з сацыяльнага й нават палітычнага пункту погляду карціна паўстае крыху ў іншым сьвятле. «Добры» сацыялізм, і нават камунізм, для многіх людзей і цэлых сацыяльных групаў – пачатковы этап на шляху да прынцыпаў і каштоўнасьцяў свабоды. І ў гэтай якасьці згаданыя міфалягемы могуць стаць прымальнымі – для многіх яны непазьбежны этап самавызваленьня ад ідалаў таталітарызму. Варта ўлічыць, што разьвіцьцё беларускага грамадзтва пакуль у значнай меры вызначаецца тымі працэсамі, што адбываюцца ў нетрах КПБ.

Кампартыя была й застаецца сурагатам грамадзянскае супольнасьці на Беларусі. І таму арганізацыйнае разьмежаваньне ў КПБ, стварэньне ў ёй розных плыняў (сувэрэн-камуністаў, камуністаў-дэмакратаў) спрыялала-б дэмакратызацыі Беларусі й фармаваньню нармальнае грамадзянскае супальнасьці. Камуністы-дэмакраты ня проста запоўняць нішу ў палітычным жыцьці Рэспублікі, іх зьяўленьне падарве сацыяльную ўладу КПБ, нефармальныя неправавыя мэханізмы татальнага кіраваньня грамадзтвам. Палітычнае жыцьцё толькі тады й пачнецца.

У пэрспэктыве гэта можа стварыць і пэўныя цяжкасьці для дэмакратычных сілаў. Вышэй ужо было сказана пра жывучасьць сацыялістычных ідэяў у народнай сьвядомасьці. І, умоўна кажучы, першы сакратар ЦК КПБ Аляксандар Лукашэнка мог-бы падвысіць канкурэнтаздольнасьць кампартыі, вярнуць сацыялістычным ідэям таварны выгляд. Але разьмежаваньне ў шэрагах КПБ прывяло-б да адміраньня ценявых структураў улады кампартыі й пераўтварэньня яе ў парлямэнцкую партыю. Але палітычныя барацьба з парлямэнцкай партыяй, і нават яе перамога, – гэта зусім ня тое, што манаполія на ўладу партыі «новага тыпу».

Тым болей, што дэмакратычнае крыло ў кампартыі наўрад ці доўга ўтрымаеца на пазіцыях «добрага» камунізму. Цалкам магчыма яго эвалюцыя ў бок сацыяль-дэмакратыі. Тады прыгоды прывіду камунізму на беларускай зямлі хутчэй за ўсё пасьпяхова завершацца й узьнікне той самы кансэнсус у адносінах да фундамэнтальных каштоўнасьцяў, які толькі й можа быць апірышчам грамадзянскае згоды.

Юры Дракахруст.
Малюнак Мікалая Чаркасава.



 

 



ДОСЬВЕД

# «Плян Бальцаровіча»: Што адбылося?

*У «рэформу Бальцаровіча» Польшча ўступіла ў 1990 годзе, маючы перад сабою праблемы, якія да яе ніхто не спрабаваў вырашыць адначасова: ліквідацыя дэфіцыту на ўнутраным рынку, абмежаваньне скрайне высокае інфляцыі, па сутнасьці, гіпэрінфляцыі, што дасягнула ў канцы 1989, апошняга перадрэформенага году, ад 2 да 3 тыс. працэнтаў у год, і, нарэшце, абясцэньваньне грошай. Мінулы год, а таксама студзень і люты 1991 году дастаткова выразна паказалі ўсю складанасьць перабудовы польскае эканомікі.*

## ПЕРШЫЯ ВЫНІКІ

У цэлым у 1990 годзе інфляцыя склала 250% замест прагназаваных 90-95%, нацыянальны прыбытак зьнізіўся не на 5%, як меркавалася, а на 12-14%, прычым, рэалізаваная прамысловая прадукцыя скарацілася на 23%. Калі ў жнiўні 1990 году ўдалося зьвесьці інфляцыю да 1,8%, успыхнуў канфлікт на Блізкім Усходзе, які паглыбіў падставы крызісу, а ў Польшчы распачалася прэзідэнцкая выбарчая кампанія, насычаная сацыяльнай дэмагогіяй і абяцанкамі, прэсінгам і крытыкаю жорсткага эканамічнага курсу ўраду Мазавецкага, а найболей – строгага рэжыму «пляну Бальцаровіча». Калі-б сучасны габінэт, які ўзначальвае прэм'ер Ян Бялецкі, паспрабаваў хоць-бы часткова выканаць абяцанкі, дадзеныя новым прэзідэнтам Лехам Валенсам у ходзе перадвыбарчае кампаніі, дык Польшча імгненна апынулася-б у становішчы СССР, Румыніі й Балгарыі.

Аднак непахіснасьць Бальцаровіча не прадухіліла непазьбежнага «паслабленьня» фінансавае палітыкі дзяржавы. Увосень 1990 году нагадалі пра сябе небясьпечныя зьявы: банкаўская працэнтная стаўка па дэпазітах апынулася ніжэй за працэнт інфляцыі, падвысіўся заробак, хаця не ўзрасла прадуктыўнасьць працы. Праўда, рэальная зарплата зьнізілася ў маштабе году на 20–25%, але ўжо ва ўмовах ураўнаважанага рынку й запоўненых крамаў, калі за тавар плоцяць столькі, колькі ён каштуе, а не купляюць яго, як раней, утрая даражэй на «чорным рынку», паколькі ў крамах па афіцыйных цэнах мала што можна было купіць.

Але створаны ўпершыню ў пасьляваеннай Польшчы збалянсаваны рынак забесьпячэньня й спажывецкіх тавараў – не адзіны посьпех аўтараў пляну стабілізацыі эканомікі. Іхнія высілкі нечакана прынесьлі сюрпрызы. Упершыню пасьля 1979 г. у цэнтральным бюджэце прыбыткі перавысілі выдаткі, што захавалася практычна на працягу ўсяго году. Зь 1 студзеня 1990 г. захоўваецца цьвёрды курс польскага злотага адносна даляра, а ў сьнежні 1990 пакупніцкая здольнасьць даляра на польскім унутраным рынку склала блізу 37% яго кошту ў леташнім годзе (факт эўрапейскага маштабу). Пакуль нішто не пагражае ўнутранай канвэртуемасьці польскага злотага.

Замест чаканага дэфіцыту было дасягнутае даволі высокае актыўнае сальда ў зьнешнегандлёвых абаротах свабоднае валюты, што зьмякчыла восеньска-зімовы крызіс на паліўным рынку, эканамічныя наступствы ліквідацыі ГДР і распаду рынку СЭУ. Ацэненае ў 7 млрд рублёў перавышэньне ў гандлі з СССР, верагодней за ўсё, ляжа цяжарам на польскую банкаўскую сістэму або фінансы ўрадавага сэктару й, безумоўна, адаб'ецца на жыцьці звычайных грамадзян. На жаль, прапазіцыі аб пачатку перамоваў, прысьвечаных узаемным разьлікам, завісьлі ў паветры.

## ДЗЯРЖАЎНЫ СЭКТАР

Пэўна, больш за ўсё зьдзівіла аўтараў рэформы стаўленьне да свабоднага рынку бальшыні дзяржаўных прадпрыемстваў, якія па-ранейшаму выробляюць каля 70% нацыянальнага прыбытку. Гэтыя прадпрыемствы пачалі вызваляцца ад валюты й матар'яльных рэсурсаў, абмяжоўваючы вытворчасьць і падвышаючы цэны, замест таго, каб шукаць выйсьця ў зьмене профілю вытворчасьці, зьніжэньні вытворчых выдаткаў і скарачэньні залішняе колькасьці работнікаў, карацей, у падвышэньні канкурэнтаздольнасьці на ўнутраным і зьнешнім рынках. Усё большая колькасьць эканамістаў схіляецца да сьцьвярджэньня, што дзяржаўнае «сацыялістычнае» прадпрыемства немагчыма зрэфармаваць. У сувязі з гэтым сучасны ўрад, узначалены Янам Крыштафам Бялецкім, уважае за галоўную задачу 1991 году масавую прыватызацыю дзяржаўных фірмаў.

Апроч усемагчымых прыёмаў прыватызацыі, у тым ліку й з удзелам айчыннага капіталу, у студзені й лютым бягучага году ўрад зрабіў некалькі сьмелых крокаў, прадаючы пакеты кантрольных акцыяў: буйнога заводу асьвятляльнае апаратуры «Палям» у Піле, на Паморры – «Філіпсу», буйнейшага ва Ўсходнай Эўропе заводу папераробных машын «Фампа» ў Ніжняй Сілезіі – амэрыканскай карпарацыі «Балёйт» зь Віскансіну, а таксама электронных прадпрыемстваў «Тэлькам-Тэльфа» – «Эрыксану».

Летась колькасьць прыватных прадпрыемстваў, кіраваных фізічнымі асобамі, узрасла больш як на 360 тысяч, прыватных таварыстваў на паевых умовах – у два з паловаю разы, таварыстваў са зьмешаным капіталам – у 4 разы. У той час, як вытворчасьць у дзяржаўным сэктары развальвалася, прыватны сэктар нарошчваў магутнасьці, забясьпечыўшы працаю 1800 тысяч чалавек па-за сельскай гаспадаркаю.

## ЧАГО ЧАКАЦЬ АД 1991?

Пачатак новага году быў адзначаны значным ростам цэнаў, якія па-ранейшаму кантралююцца дзяржаваю. Па-першае, узрасла на 20% аплата за электраэнэргію і на 80% – за газ, кошты бэнзіну й газойлю падвысіліся на 11%, сьпіртных напояў – на 40%, каменнага вуглю – на 25%, аплата праезду на транспарце – на 40%. Такім чынам, узьнікае чарговы бар'ер попыту. Рэалізаваная прадукцыя прамысловасьці зьнізілася на 2% супраць студзеня 1991 году, што стварае пагрозу плянуемаму на наступны год 4% росту нацыянальнага прыбытку пры захаваньні 32% ўзроўню інфляцыі на працягу году. Толькі ў студзені розьнічныя цэны вырасьлі на 12,7%, з тым, што падвышэньне было прызнана неабходным, бо дзяржава вырашыла лібэралізаваць усе цэны не пазьней за канец наступнага году (зараз кантралююцца цэны толькі асартымэнтаў вырабаў і паслугаў).

У лютым бягучага году цэны ўзрасьлі толькі на 2,5–4%, што прадказвае зьдзяйсненьне прагнозу наконт зьніжэньня інфляцыі з другога квартала на 1–2% у месяц. На думку большасьці эканамістаў, прамысловая прадукцыя ў Польшчы захаваецца на леташнім узроўні. Пры месячнай інфляцыі 1–2% курс даляра не павінен зьмяніцца, прынамсі, у першым паўгодзьдзі 1991 году.

## ЗАНЯТАСЬЦЬ: СТРАХІ Й РЭАЛЬНАСЬЦЬ

У 1991 год Польшча ўступіла з параўнальна невысокім рэальным беспрацоўем. Сотні тысяч людзей, зарэгістраваныя ў бюро па працаўладкаваньні дзеля атрыманьня дапамогі, нідзе раней не працавалі й не зьбіраліся працаваць. У выніку «групавых звальненьняў» на прадпрыемствах і ва ўстановах засталіся бяз працы блізу 150 тыс. чалавек, хаця на пачатку 1990 года выказваліся думкі, што кожны трэйці работнік будзе звольнены. Гэтага не адбылося дзякуючы пасьлядоўнаму стрымліваньню росту зарплаты. Прыкладам для Польшчы стала былая ГДР, дзе «выбух» зарплаты прывёў да масавых банкруцтваў і да ня менш масавага беспрацоўя.

Нечаканасьцю сталася рэакцыя польскага сялянства – сацыяльнае групы, якая ўжо да рэформы валодала значнай уласнасьцю. Сяляне першымі выступілі супраць новае палітыкі. Паўтара года таму яны патрабавалі свабодных цэнаў на харчовыя тавары. Але, адчуўшы на сабе строгі рэжым рынку, узьнялі пратэст. Яны ўжо ня хочуць быць вольнымі вытворцамі, дый не гатовыя да гэтага, а хочуць аднавіць старыя прывілеі закупкі дзяржаваю ўсяго, што яны выробляюць, г.зн. гарантыі акупаемых цэнаў незалежна ад якасьці прадукцыі. Тое самае можна сказаць і пра шахцёраў і пра рабочых буйных прадпрыемстваў. Іхні групавы інтарэс зводзіцца, хутчэй, да захаваньня статус-кво й зьнітаваны з ладам, што адыйшоў у нябыт. Але, нельга задаволіць старыя інтарэсы пры аднаачасовым правядзеньні палітыкі па стварэньні рынкавае эканомікі.

## ЗАМЕЖНЫ КАПІТАЛ

Агенцтва па замежных інвэстыцыях у пэрыяд дзеяньня закону ад 23 сьнежня 1988 году пра гаспадарчую дзейнасьць з удзелам замежных суб'ектаў выдала 2799 ліцэнзіяў на стварэньне таварыстваў з замежнымі капіталамі (у 1988 годзе было выдадзена 864, а ў 1990 – 1935 ліцэнзіяў). Дарэчы, у СССР за ўсе гады перабудовы выдадзена блізу 3000 ліцэнзіяў, а рэальна дзейнічае 840 прадпрыемстваў з замежным удзелам.

Агульны аб'ём устаноўчага капіталу таварыстваў ацэньваецца на суму 544,1 млн даляраў ЗША, з чаго 373,8 млн складае замежны капітал (у 1989 г. – 141,7 млн даляраў ЗША, у 1990 – 232,1 млн).

Найбольшую колькасьць таварыстваў заснавалі інвэстары з ФРГ – 981, Швэцыі – 256, ЗША – 214, Аўстрыі – 200.

## ЗЬНЕШНІ ГАНДАЛЬ

Зьнешнегандлёвы абарот, пададзены ў сталых цэнах, выявіў у 1990 годзе ў параўнаньні з 1989 годам значнае абмежаваньне гандлёвага абмену зь першай гандлёвай зонаю (рублёвы разьлік) – асабліва па імпарце. У абаротах з другой плацёжнай зонаю (даляравы разьлік) дынамічна рос экспарт, а таксама было прыпыненае – асабліва ў чацьвертым квартале – скарачэньне аб'ёму імпарту.

**1-я (рублёвая) плацёжная зона**

У 1990 г. перавышэньне экспарту над імпартам склала 4787,1 млн пераводных рублёў (у 1989 г. – 2111 млн). У 1991 г. (студзень, люты) экспарт склаў у бягучых цэнах 636,3 млн пераводных рублёў, імпарт – 403,5 млн.

**2-я плацёжная зона**

Станоўчае сальда склала 3798,3 млн даляраў ЗША (летась – 767,3 млн). Скарачэньне імпарту з 2-е плацёжнае зоны датычылася ўсіх групаў тавараў за выключэньнем прадукцыі электрамашынабудаваньня, а таксама паліва й энэргіі. У 1991 годзе (студзень, люты) экспарт у бягучых цэнах склаў 1784,3 млн даляраў ЗША, а імпарт – 1818,7 млн.

## ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ

Прыбытак у студзені й лютым ад продажу прадукцыі й паслугаў у прамысловасьці быў на 3,6 % ніжэй як год раней. Лепшых паказчыкаў дасягнула дрэваапрацоўчая й цэлюлёзная прамысловасьць – 115%, харчовая – 111,1%, лёгкая – 103,9%, хімічная – 101,0%, а таксама паліўна-энэргетычная – 100,1%. Горшыя паказчыкі былі зафіксаваныя ў мэталюргічнай прамысловасьці – 85,2%, электрамашынабудаўнічай – 84,7%, прамысловасьці мінэральных угнаеньняў – 87,9%.

## ЗАРОБНАЯ ПЛАТА

Сярэднямесячная заробная плата ў шасьці галінах прамысловасьці склала ў лютым бягучага году 1 680 000 злотых, г.зн. павялічылася на 238,6% у параўнаньні з адпаведным пэрыядам мінулага году.

Занятасьць у лютым бягучага году скарацілася ў параўнаньні з адпаведным пэрыядам мінулага – на 11,5%, а адносна студзеня сёлетняга году – на 0,9%.

## ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

У структуры польскае эканомікі апроч групы, што складаецца з 500 буйных прадпрыемстваў, існуюць тысячы малых. Прыняты ў мінулым годзе закон аб прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў прадугледжвае для гэтых дзьвюх групаў два асноўныя спосабы прыватызацыі.

Гэтаак званая «прыватызацыя капіталу», заснаваная на пераўтварэньні прадпрыемстваў у акцыянэрныя таварыствы Дзяржаўнага Скарбу, а затым продаж акцыяў шляхам публічнае падпіскі на іх. Магчымы таксама продаж вялікіх пакетаў акцыяў так званым «інстытуцыйным» інвэстарам (банкам, іншым прадпрыемствам) альбо замежным інвэстарам.

Два прыватызаваныя такім чынам прадпрыемствы набылі замежныя інвэстары: 51% акцыяў польскага «Палям» выкупіла фірма «Філіпс», а 80% акцыяў фабрыкі папераробных машынаў «Фампа» былі прададзеныя карпарацыі «Балёйт».

Да канца лютага ў Міністэрстве пераўтварэньня ўласнасьці зарэгістравана каля 85 натарыяльных актаў акцыянэрных таварыстваў, а таксама каля 10 натарыяльных актаў таварыстваў з абмежаванай адказнасьцю.

Былыя прадпрыемствы падвяргаюцца прыватызацыі шляхам ліквідацыі. Пасьля сканчэньня працэдуры ліквідацыі – якая ня можа сьведчыць пра кепскія кандыцыі прадпрыемства – яго маёмасьць выстаўляецца дзеля продажу, здаецца ў арэнду. Да канца лютага гэты працэс ахапіў 136 прадпрыемстваў. І ў гэтай форме прыватызацыі могуць браць удзел замежныя гаспадарчыя суб'екты.

## РЫНАК КАПІТАЛУ

У Міністэрстве пераўтварэньня ўласнасьці працягваецца праца па стварэньні ў Варшаве цэнтральнае біржы каштоўных папераў, а да пачатку яе дзейнасьці абарот акцыяў знаходзіцца ў кампэтэнцыі банкаў. Абарот каштоўных папераў будзе рэгулявацца спэцыяльным законам, які зараз абмяркоўваецца ў Сойме. Кантраляваць дакладнасьць каштоўных папераў будзе Камісія па каштоўных паперах.

## ЗАКАНАДАЎСТВА

Зараз у Сойме абмяркоўваецца праект новага закону аб таварыствах з удзелам замежнага капіталу. У заканадаўчыя палажэньні маюць быць унесеныя шматлікія зьмены. У прыватнасьці, мяркуецца:

–увесьці поўны трансфэр прыбытку. (Да цяперашняга часу замежны суб'ект мог ажыцьцяўляць трансфэр прыбытку да велічыні станоўчага сальда абароту з замежжам, а зь бягучага году – дадаткова 15% ад квоты прыбытку, якая засталася звыш згаданага станоўчага сальда);

–ліквідаваць інвэстыцыйныя межы. (Дагэтуль мінімальны ўнёсак замежнага суб'екта ў капітал таварыства меўся складаць 50 тыс. даляраў ЗША, а мінімальны ўдзел замежнага суб'екта ва ўстаноўчым капітале таварыства складае 20%);

–ліквідаваць падаткавыя ільготы. (Дагэтуль у таварыстве з удзелам замежных суб'ектаў мог карыстацца трохгадовым пэрыядам вызваленьня ад папрыбытковага падатку. Таварыствы, створаныя да канца мінулага году, карыстаюцца таксама правам вызваленьня ад падаткаў з росту заробку. Старшыня Агенцтва па замежных інвэстыцыях, а таксама міністар фінансаў могуць падоўжыць пэрыяд вызваленьня ад падаткаў, аднак на тэрмін ня большы за 3 гады);

–ліквідаваць практыку абавязковага атрыманьня дазволу на стварэньне таварыства за выключэньнем некаторых выпадкаў, у прыватнасьці, калі замежны інвэстар хоча ажыцьцяўляць дзейнасьць у галіне, якая ахоўваецца зь меркаваньняў дзяржаўных інтарэсаў. (Дагэтуль кожны выпадак вымагае спэцыяльнага дазволу старшыні Агенцтва);

–значна лібэралізаваць парадак набыцьця паёў альбо акцыяў замежнымі суб'ектамі ў таварыствах, падпарадкаваных польскаму праву. (Дагэтуль патрэбны дазвол, які выдае старшыня Агенцва);

–адмовіцца ад неабходнасьці атрыманьня дазволу ад старшыні Агенства на зьмену сфэры дзейнасьці таварыства з удзелам замежнага капіталу;

–захаваць практыку вызваленьня ад выплаты мыта толькі ў дачыненьні сродкаў, якія зьяўляюцца неграшовым унёскам замежнага суб'екта ва ўстаноўчы капітал таварыства. (Дагэтуль вызваленьне ад выплаты мыта распаўсюджвалася таксама на машыны, абсталяваньне ды іншыя сродкі, прызначаныя для ажыцьцяўленьня дзейнасьці таварыства, і дзейнічала на працягу 3 год з моманту стварэньня таварыства.

## ПАДАТКААБКЛАДАНЬНЕ

У 1991 г. плянуецца правядзеньне рэформы сістэмы падаткаабкладаньня ў мэтах спрашчэньня існага парадку й гарантаваньня раўнапраўнага стаўленьня да ўсіх падаткаплацельшчыкаў.

Будзе захаваная ранейшая стаўка падатку, г.зн. 40%. Ня будуць выкарыстоўвацца інвэстыцыйныя ільготы за выключэньнем выдаткаў на набыцьцё й мантаж машынаў і абсталяваньня ў малочнай прамысловасьці. Падтрымку інвэстыцыяў павінны забясьпечыць:

–увядзеньне права адлічэньня стратаў, панесеных у адным прыбытковым годзе, ад прыбытку, атрыманага на працягу наступных 3 год;

–падвышэньне ставак амартызацыйных адлічэньняў і пераацэнка кошту асноўных фондаў.

Да часу ўвядзеньня ўсеагульнага падатку з тавараў і паслугаў бярэцца падатак з абароту. Зь імпартных тавараў ён спаганяецца на мяжы мытнямі.

Яшчэ сёлета мае быць уведзены падатак з тавараў і паслугаў. Будуць ужывацца дыфэрэнцаваныя стаўкі гэтага падатку:

–асноўная (у памеры 18%);

–зьніжаная (5% ад перапрацаваных харчовых прадуктаў, лекавых прэпаратаў, кнігаў, часопісаў і жыльлёвага будаўніцтва);

–нулёвая (г.зн. вяртаньне сумы падатку, сплочанага на раньніх фазах экспартнага абароту, а таксама для некаторых сродкаў вытворчасьці, што служаць сельскай гаспадарцы: мінэральныя ўгнаеньні, сродкі аховы расьлінаў, прамысловыя крамы).

Незалежна ад падатку на тавары й паслугі, відаць, захаваецца акцызны падатак: на лікёра-гарэлачныя й вінныя вырабы, піва, тытунёвыя вырабы, паліва, машынныя алеі, ювэлірныя вырабы.

У склад мясцовых падаткаў і аплатаў уваходзяць: падатак на нерухомасьць, на транспартныя сродкі, на сабак, рынкавыя аплаты. Памеры гэтых падаткаў вызначаюцца мясцовымі ўладамі. Толькі максімальныя стаўкі падатку на транспартныя сродкі вызначаюцца міністрам фінансаў.

## БАНКАЎСКАЯ СПРАВА

Польскае банкаўскае права дапускае наступныя магчымасьці ўдзелу замежнікаў у польскай банкаўскай сістэме:

1. Стварэньне банкаў у форме акцыянэрных таварыстваў замежнымі грамадзяамі альбо з удзелам замежнага капіталу.

2. Адкрыцьцё аддзяленьняў альбо прадстаўніцтваў замежных банкаў.

**Банк – акцыянернае таварыства**

Банк могуць стварыць па меншай меры 3 юрыдычныя альбо 10 фізічных асобаў.

Дазвол на стварэньне банку выдае старшыня Нацыянальнага польскага банку пасьля кансультацыяў з Радаю банкаў і ўзгадненьня зь міністрам фінансаў. Дазвол можа быць выдадзены, калі былі забясьпечаныя:

1. Насычэньне банку ўласным капіталам. Тут існуюць наступныя патрабаваньні:

а) мінімальны ўласны капітал замежных грамадзянаў у канвэртуемай валюце павінен складаць 6 млн даляраў ЗША альбо эквівалент гэтае сумы ў іншых канвэртуемых валютах;

б) сума ў польскай валюце, якую ўносяць польскія грамадзяне, не абмяжоўваецца.

2. Памяшканьні й тэхнічныя сродкі, неабходныя для ажыцьцяўленьня дзейнасьці.

3. Прызначэньне на кіраўнічыя пасады асобаў з адпаведнай прафэсійнай падрыхтоўкаю. Да такіх пасадаў належаць: пасада кіраўніка, яго намесьнікаў і астатніх сяброў праўленьня банку. У склад праўленьня банку павінен увайсьці прынамсі адзін польскі грамадзянін.

**Аддзяленьне (прадстаўніцтва) замежнага банку**

Умоваю адкрыцьця аддзяленьня (прадстаўніцтва) замежнага банку зьяўляецца дазвол, выдадзены міністрам фінансаў пасьля ўзгадненьня са старшынём Нацыянальнага польскага банку.

Прадстаўніцтва ня можа ажыцьцяўляць банкаўскія апэрацыі, прадугледжаныя ў банкаўскім праве для банкаў або аддзяленьняў.

**Падборка падрыхтаваная па матар'ялах польскага друку.**

**Пераклад Юрыя РАГУЛІ.**



 





РУХ

# Рэгістрацыя БНФ

Юры ХАДЫКА



„Я хачу павіншаваць усіх дэмакратычна настроеных людзей Беларусі зь перамогаю"

19 чэрвеня адбылася рэгістрацыя Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» Міністэрствам юстыцыі БССР. Упаўнаважаным прадстаўнікам Сойму БНФ Ул.Анцулевічу й В.Чуйко міністар Л.Дашук уручыў пасьведчаньне №110. Гэтым самым скончылася барацьба, якую вёў Народны Фронт за легалізацыю шырокага дэмакратычнага руху, пачынаючы з 12 ліпеня 1989 г., калі ўпершыню пасьля Ўстаноўчага Зьезду дакумэнты БНФ былі пададзеныя на рэгістрацыю. Гісторыя гэтае барацьбы вельмі павучальная, і таму трэба нагадаць яе асноўныя этапы.

Першая рэакцыя афіцыйнае ўлады наступіла 9 верасьня 1989 г., калі кіраўніцтва БНФ было выклікана ў Прэзідыюм ВС БССР, дзе былы намесьнік Старшыні Прэзідыюма Ул. Мікуліч паведаміў, што Фронту адмоўлена ў рэгістрацыі, і ўручыў дакумэнт пад назваю «Заключэньне па Статуце БНФ за перабудову «Адраджэньне».

Назаўтра гэтае «заключэньне» было надрукаванае ў «Советской Белоруссии», а яшчэ праз дзень – у «Звяздзе». З хітрай абачлівасьцю ў надрукаваным матар'яле не былі пастаўленыя подпісы аўтараў. Але сёньня трэба назваць іх прозьвішчы: Ул. Мікуліч, сакрататар ПВС БССР Л. Сыраегіна, першы намесьнік Пракурора БССР В.Кандрацьеў, нам. міністра юстыцыі В.Лоўчы, сакратар Белсаўпрафу Д.Марач, першы намесьнік міністра ўнутраных справаў В.Кавалёў, першы намесьнік старшыні КДБ БССР Э.Шыркоўскі й два сапраўдныя аўтары: загадчык юрыдычнага аддзелу ПВС БССР Я. Бурдзевіцкі й загадчык аддзелу Інстытуту філязофіі й права АН БССР Ул.Шабайлаў. Сьпіс характэрны вялікай колькасьцю намесьнікаў, а таксама тым, што некаторыя асобы зь яго ўжо страцілі свае пасады. Адмова была незаконная, як па форме, так і па сутнасьці. Каб надаць ёй больш-менш прыстойны выгляд, і зьявілася гэтае «Заключэньне».

Апрача кругавой парукі ЦК КПБ распрацаваў ідэялягічнае прыкрыцьцё для дзяржаўнага беззаконьня. Яно грунтавалася на тэзісах: «...Статут БНФ – гэта не статут добраахвотнага таварыства альбо саюзу, а, па сутнасьці, статут палітычнае партыі...», «БНФ не прызнае кіраўнічае ролі Камуністычнае партыі...», «У Статут уключаныя нормы відавочна дыскрымінацыйнага характару ў адносінах да вызваленых партыйных, камсамольскіх і прафсаюзных работнікаў... якія могуць быць толькі шараговымі членамі групаў падтрымкі». (Цытаты з «Заключэньня»). Ідэёлягам з ЦК КПБ не падабалася незалежная ад камуністычнага кантролю грамадзкая арганізацыя, якая абапіралася на шырокія пласты беспартыйнага люду. Таму яны навесілі на БНФ шыльду «партыя» й праз сваю прэсу ўпарта навязвалі гэтую недарэчнасьць масавай сьвядомасьці. Але ня «партыі» баяліся апаратчыкі: сапраўдная прычына іх боязі была іншай. Набліжаліся выбары, і законнае існаваньне такой арганізацыі, як БНФ, утварала рэальную небясьпеку неабмежаванаму панаваньню КПБ. Неабходна было пазбавіць БНФ магчымасьці шырокага ўдзелу ў выбарчай кампаніі. •

Вясною 1990 г. перад выбарамі дакумэнты БНФ былі перададзеныя ў СМ БССР, які наогул не рэагаваў на нашыя заявы, ня гледзячы на тое, што да гэтага часу адпала спасылка на «непрызнаньне кіраўнічае ролі».

Наступны паварот гэтае дэтэктыўнае гісторыі адбыўся 4 кастрычніка, калі дакумэнты БНФ былі перададзеныя для рэгістрацыі ў Міністэрства юстыцыі БССР у адпаведнасьці з толькі што прынятым усесаюзным законам аб партыях і арганізацыях. Аднак, прачакаўшы два месяцы, прадугледжаныя законам для разгляду пытаньня, чыноўнікі Мінюсту выклікалі прадстаўнікоў БНФ і паклалі перад імі цьмяныя копіі з арыгіналаў дакумэнтаў, даўно пададзеных на рэгістрацыю, і паскардзіліся, што яны ня могуць іх прачытаць. Магчыма, гэты непрыстойны жарт прыдумаў тагачасны міністар юстыцыі В. Ціхіня, які якраз у гэты дзень, 4 сьнежня 1990 г., перасаджваўся зь міністэрскага крэсла ў крэсла сакратара ЦК КПБ. Так чарговы раз кампартыя праілюстравала, як яна разумее тэрмін «прававая дзяржава», і чаго вартыя яе заклікі да спыненьня канфрантацыі. Больш таго, чыноўнікі Мінюсту запатрабавалі дадатковыя дакумэнты з Устаноўчага Зьезду БНФ, якія раней паводле закону не былі патрэбныя.

Улічваючы, што набліжаўся чарговы зьезд БНФ, на якім трэба было ўнесьці зьмены ў Статут, мы былі вымушаныя часова спыніць спробы дамагчыся рэгістрацыі. Кампанія супрацьстаяньня аднавілася 14 красавіка, калі новы пакет дакумэнтаў быў перададзены ў Мінюст. Сойм утварыў групу ў складзе Ул.Анцулевіча, Г.Вашчанкі, Г.Сямдзянавай і В.Чуйко, якім даручыў займацца рэгістрацыяй. Гэтай групе сяброў Сойму, якая дзейнічала ў строгай адпаведнасьці з законам, давялося пераадолець шмат цяжкасьцяў. Рашаючую ролю адыграла пагроза звароту ў суд з грамадзянскім іскам супраць Мінюсту, які патрабаваў ад БНФ таго, што не прадугледжана законам, у той час, калі КПБ была зарэгістраваная з парушэньнем таго-ж закону.

У рэшце рэшт БНФ выстаяў у гэтай няроўнай барацьбе. І ня толькі выстаяў, але атрымаў маральную перамогу, не прызнаўшы ні «кіраўнічае ролі» ні асаблівага становішча КПБ-КПСС, не адмовіўшыся ад заваяванага ім права гаварыць ад імя шырокае беспартыйнае грамадзкасьці Беларусі.

Але акт 19 чэрвеня – як двухаблічны Янус, адзін твар якога зьвернуты ў мінулае, другі – у будучыню. Ён вымушае КПБ-КПСС спыніць злосную паклёпніцкую кампанію ў сродках масавае інфармацыі, паколькі БНФ цяпер можа прыцягнуць паклёпнікаў да судовае адказнасьці. Новы статус дае нам магчымасьць здабыць памяшканьні для працы й патрабаваць час на дзяржаўным ТБ. Адкрываюцца новыя пэрспэктывы ўдзелу ў выбарчых кампаніях.

А пакуль я хачу павіншаваць усіх дэмакратычна настроеных людзей Беларусі зь перамогаю й яшчэ раз падзякаваць сп.сп. Анцулевічу, Вашчанцы, Сямдзянавай і Чуйко за бліскуча зробленую працу.

**Намесьнік Старшыні БНФ, прафэсар Юры ХАДЫКА.**

**Фота Кастуся Войткі.**

ДАРУЙ ІМ, БО НЯ ВЕДАЮЦЬ, ШТО ТВОРАЦЬ

## Даруй ім, бо ня ведаюць, што твораць

У беларускіх палітычных колах пачаліся пошукі кандыдатаў на пасаду прэзідэнта. У віцебскай філіі Аб'яднанае дэмакартычнае партыі сярод магчымых кандыдатаў называецца прозьвішча ... народнага дэпутата СССР Аляксандра Жураўлёва. Няўжо віцебскія аб'яднаныя дэмакраты ўсурёз надумалі заняцца палітычнай рэанімацыяй?

## «Память» рыхтуе зьмену

**Менск.** 18 чэрвеня Міністэрства юстыцыі БССР зарэгістравала новую грамадзкую арганізацыю – «Союз Скаутов Белоруссии». Згодна са статутам, сваю дзейнасьць ССБ праводзіць у адпаведнасьці з Канстытуцыямі БССР і СССР. ССБ не прадстаўляе якуюнебудзь палітычную партыю ці арганізацыю. Сябрамі ССБ могуць быць грамадзяне БССР, іншых рэспублік СССР ці замежных краінаў. Філіі ССБ створаныя ў Гародні, Бярэсьці, Смаргоні, Віцебску, Магілёве.

Кіраўніцтва «Союзу Скаутов Белоруссии» мае шчыльныя сувязі зь менскімі згуртаваньнямі «Память» і «Белая Россия». На пытаньне да аднаго з кіраўнікоў ССБ, Аляксандра Гадлеўскага, як ён разумее слова «айчына» ў тэксьце прырачэньня скаўта, ён адказаў: «Я считаю Отечеством Россию».

## Цэнтар мусульманскай культуры

Іўе (Гарадзенская вобл, паводле М.Карніевіча). 10 чэрвеня ў Іўі, дзе значная частка насельніцтва вызнае іслам, адзначалася сьвята Курбан-Байрам – адно з галоўных у мусульманскім календары. Сьвяткаваньне арганізаваў Гарадзенскі цэнтар мусульманскае культуры імя Абу Алі Ібн Сіны (кіраўнік – Сарвар Нурадзьдзін Зіняравіч). Цэнтар зарэгістраваны летась і зьяўляецца адзіным у Рэспубліцы. Мэта яго дзейнасьці – захаваньне й падтрыманьне культуры мусульманскага насельніцтва Беларусі.

Цэнтар падтрымлівае сувязі з падобнымі асяродкамі больш як у 40 краінах сьвету, але дагэтуль ня мае ўласнага памяшканьня.

## Фэрмэрскі рух пашыраецца

56 фэрмэрскіх гаспадарак створана на сёньняшні дзень на Берасьцейшчыне. Найбольшая іх колькасьць – каля 20 – у Маларыцкім раёне. На кожнага фэрмэра прыпадае 10–12 гектараў зямлі.

## Страсьці вакол прэзідэнцтва

«Прэзідэнт намэнклятуры – гэта шлях да дыктатуры,» – пад такім лёзунгам стаялі 26 чэрвеня пікетчыкі каля Дома ўраду ў Менску. Гэта быў дзень, калі беларускі парлямэнт абмяркоўваў магчымасьць абраньня першага прэзідэнта на сэсіі ВС БССР.

## Рэформы ў выцьвярэзьніку

У адпаведнасьці з рашэньнем аблвыканкаму ў Бярэсьці зачынены адзіны ў горадзе мэдвыцьвярэзьнік. Цяпер «спэцмэддапамога» будзе аказвацца ў абласным наркалягічным дыспансэры, дзе з гэтае нагоды выдзелена некалькі ложкаў. Захаваньне лякарскае таямніцы гарантуецца.

## Моладзь гуртуецца

22–24 чэрвеня ў Львове адбылася 3-я сустрэча дэмакратычных аб'яднаньняў моладзі Ўсходняе Эўропы, арганізаваная львоўскімі «Студэнцкім брацтвам» і «Студэнцкай сьпілкаю». Мэта сустрэчы – каардынацыя дзейнасьці маладзёжных згуртаваньняў, акрэсьленьне агульных мэтаў. Беларусь была прадстаўленая суполкаю імя Смоліча (БДУ) ды Задзіночаньнем беларускіх студэнтаў.

## Менскі Ленін ізноў зьняважаны

**Менск.** Ранкам 23 чэрвеня быў абліты ружовай фарбаю помнік Леніну на пляцы перад Домам ураду. Ужо а 10.00 сьляды акцыі былі зьнішчаныя. Помнік ахоўваўся міліцыяй.

## Свабоду Зянону Пазьняку!

Сярод дэпутатаў ВС БССР быў распаўсюджаны праект пастановы аб пазбаўленьні старшыні БНФ З.Пазьняка дэпутацкае недатыкальнасьці з мэтаю прыцягненьня яго да адміністратыўнае адказнасьці за падзеі 7 лістапада ў Менску. Мераю пакараньня мог-бы быць штраф, або 15 сутак арышту. Сэсія згоды на разгляд гэтага пытаньня не дала.

## Купальле

**Вязынка** (Маладэчанскі р-н). У ноч на 23 чэрвеня суполкі «Талака» (Менск) і «Летуценьнікі» (Заслаў'е) сьвяткавалі купальле на радзіме песьняра. Купальле ў Вязынцы робіцца традыцыяй – яно ладзіцца 8 год запар.

Падборку падрыхтавалі Алена Радкевіч і Уладзімір Панада.

КРОНІКА

КАМЭНТАР

# Пірава перамога



*4-я сэсія ВС БССР цалкам праігнаравала патрабаваньні красавіцкіх страйкаў. Стаўленьне рабочых да вынікаў сэсіі камэнтуе адзін зь лідэраў забастоўшчыкаў народны дэпутат БССР Сяргей АНТОНЧЫК.*

Мы ня мелі ніякіх ілюзіяў у дачыненьні да сэсіі й ад самага пачатку ведалі, што нашыя патрабаваньні застануцца непачутымі. Цяпер мы занятыя стварэньнем незалежных прафзаюзаў, бо страйкамы зьяўляюцца арганізацыямі хуткага рэагаваньня й эфэктыўныя толькі пад час правядзеньня забастовак.

Што датычыцца канкрэтных крокаў, дык мы мусім давесьці да ўсіх рабочых Рэспублікі інфармацыю аб выніках сэсіі, а таксама думку пра тое, што на гэты ВС спадзявацца ўжо няма сэнсу, можна толькі патрабаваць ягонага роспуску. Мы думаем, што да новага страйку рабочы рух падыйдзе куды больш арганізаваным, і тады будзем настойваць выключна на роспуску ВС.

Многія са зларадзтвам гавораць штосьці накшталт «ну што, прайгралі, рабацягі?» Я з гэтым згодны толькі, калі перамогу ВС лічыць піравай. Бо сам зьмест паседжаньняў сэсіі працаваў супраць уладаў. І менавіта ў гэтым я бачу парадаксальную канструктыўнасьць сэсіі.

Чытачоў, безумоўна, цікавіць нашая рэакцыя на рэпрэсіі супраць арганізатараў блякады чыгункі й галадоўку аршанскіх рабочых. Паводле ўмоваў спыненьня страйку ў такіх варунках мы павінны былі-б аднавіць яго. Аднак гэтую магчымасьць можна разглядаць толькі як тэарэтычную. Страйкавы рух Беларусі перайшоў у другую стадыю, якая ад першага ўсплёску на хвалі абурэньня дзяржаўным ашуканствам адрозьніваецца актыўнымі спробамі адміністрацыі й Саўміну грашовымі падачкамі зьбіць гэтую хвалю. І па першым часе ўладам гэта ўдалося.

У пляне тактыкі я хачу падкрэсьліць, што мы адмаўляем практыку бальшавікоў. У красавіку мы маглі ўвесьці страйкі ў «штопар», і цалкам магчыма, што дасягнулі-б перамогі. Але праз гэта мы самі сталі-б ахвярамі рэвалюцыі. Люмпэнізаваная сьвядомасьць не спынілася-б перад зьвяржэньнем новага ўраду, які пры ўсім сваім жаданьні ня здолеў бы хутка палепшыць жыцьцё. І рана ці позна азлобленае адарванае ад каранёў грамадзтва прыйшло-б да новага вітка таталітарызму.

**Сяргей АНТОНЧЫК.**

**Малюнак Мікалая Чаркасава.**

SEX SHOP

*Адмена трансьляцыі сэсіі ВС БССР пазбавіла нас магчымасьці добра пасьмяяцца. Мяркуем, аўтара гэтых цытатаў пазнае кожны.*

Уважаемые народные депутаты!

Не возбуждайтесь. Ну я прошу. Я прошу. Что вы меня, как резиновую штуку, пихаете туда-сюда.

★★★

Никуда мы спускать не имеем возможности, потому что нам надо 2/3 голосов. И спускать преждевременно не спускайте. Подержите немножко.

★★★

Товарищ министр, вы не возражаете, если мы у вас одну часть укоротим? Товарищи, он согласен. Ну не спешите, не спешите. Не нужно насилия.







РЭПРЭСІІ

# Валеры СЯДОЎ. 2 месяцы за кратамі

*Згубіўшы надзею адстаяць правы чалавека, арыштаваны за ўдзел у лістападаўскім антыкамуністычным мітынгу Валеры СЯДОЎ зьвярнуўся зь лістом у пасольства ЗША, у якім намагаецца прыцягнуць увагу амэрыканскіх палітыкаў да прававога нігілізму савецкіх уладаў.*



**Масква, вул.Чайкоўскага, Пасольства ЗША.**

Паважаныя спадары!

Паважаны спадар пасол!

Я цудоўна ўсьведамляю ўсю ступень Вашае занятасьці й таму паспрабую выкласьці сутнасьць свайго звароту да Вас гранічна сьцісла й у агульных рысах.

Як Вам, магчыма, вядома, 7 лістапада 1990 году ў Менску адбыўся мітынг, арганізаваны Беларускім Народным Фронтам. Мітынг насіў яўна мірны, але антыкамуністычны характар і быў накіраваны супраць манапольнага амаральнага й бяздарнага кіраваньня КПСС. Пры гэтым падкрэсьліваю: ніякіх заклікаў і дзеяньняў, накіраваных на гвалтоўную зьмену існае ўлады не выказвалася й не прадпрымалася. Народ шчыра й адкрыта выказваў сваё стаўленьне да камунізму й КПСС (КПБ), патрабаваў суда за ўсе злачынствы бальшавікоў-ленінцаў. У ходзе мітынгу было вырашана вярнуць галоўнаму віноўніку ўсіх народных пакутаў – Ул.Леніну – належныя яму «дары» ў выглядзе пудзілаў НКУСаўца (чэкіста) й вязьня ГУЛАГу.

Дэпутаты Вярхоўнага Савету БССР зьвярнуліся да міліцыі з патрабаваньнем прапусьціць дэлегацыю зь 10 чалавек да помніка, але міліцыя не падпарадкавалася, пасьля чаго некіруемая маса народу прарвала ейныя шэрагі й падыйшла да помніка. Некалькі разоў міліцыя скідала пудзела, але народ патрабаваў яго «ускладаньня». Праз нейкі час падыйшоў да помніка й я, да маіх ног упалі рэшткі пудзіла. Я спакойна ўзяў яго й павесіў на фігуру шахцёра ў пастамэнце помніка, пасьля чаго спусьціўся долу да мітынгу-ючых.

Праз некалькі дзён пасьля мітынгу ЦК КПБ, карыстаючыся сваёй уладаю на сродкі масавае інфармацыі, пачаў шалёную кампанію цкаваньня ўдзельнікаў мітынгу й БНФ.

Са зьместам гэтае кампаніі Вы можаце азнаёміцца зь беларускіх газэтаў за лістапад-сьнежань 1990 г. Галоўны яе сэнс зводзіўся да наступнага:

–усе акцыі, накіраваныя супраць камунізму й КПСС, зьяўляюцца дзеяньнямі, накіраванымі супраць дзяржавы, г.зн. КПСС атаесамляе сябе зь дзяржаваю;

–усе, хто ня згодны зь ідэялёгіяй і палітыкай гэтай партыі – ворагі народу;

–усе, хто й не жадае пакланяцца іх крыважэрнаму правадыру – злачынцы.

У выніку ЦК КПБ адкрыта й цынічна, нават ня лічачы патрэбным схаваць гэта, патрабаваў ад органаў пракуратуры, якія знаходзяцца пад яго ўплывам пачаць расьсьледваньне гэтага інцыдэнту й прыцягнуць да крымінальнае адказнасьці зарваўшыхся антыкамуністаў. Указаньне гэтае было паслухмяна выкананае рэспубліканскай пракуратураю.

Я думаю, паважаныя спадары, што калі Вы палічыце для сябе неабходным, то азнаёміцеся з гэтай справаю падрабязьней.

Галоўная мэта, якую я меў пры напісаньні гэтага ліста, было жаданьне зьвярнуць Вашую ўвагу й увагу Вашага прэзідэнта на перасьледы, што працягваюцца ў БССР і СССР па палітычных матывах за пераканаьні, якія не супадаюць зь ідэялёгіяй і палітыкай кіруючае партыі – КПСС (КПБ). Ня маючы вартых аргумэнтаў супраць сваіх палітычных праціўнікаў, камуністы выкарыстоўваюць падпарадкаваны ім рэпрэсіўны апарат органаў КДБ, МУС, Пракуратуры й суда дзеля падаўленьня ўсялякага іншадумства. Падобным чынам абыйшліся й са мною. За дзеяньні, што носяць яўна палітычны характар, мяне спрабуюць прыцягнуць да крымінальнае адказнасьці, схаваць за краты на пяць год па артыкулах 186 (п.3) і 201 (ч.2).

ПРОКУРАТУРА БЕЛОРУССКОЙ ССР

Редактору газеты «Навіны БНФ «Адраджэньне» Суше А.М.

**На ваше личное поручительство и поручительство коллектива редакции от 20.05.91г. сообщаю, что мера пресечения в отношении гр.Седова В.В. избрана исходя из тяжести совершённых им преступлений, с учётом его личности и поведения. Оснований для изменения меры пресечения Седову В.В. не имеется.**

Руководитель следственной группы
начальник следственной части прокуратуры БССР
старший советник юстиции

В.В.Соболев

Зараз на падставе аднаго толькі факту, што я адмовіўся даваць паказаньні па сфабрыкаваным супраць мяне абвінавачваньні, мяне зьмясьцілі ў сьледчы ізалятар, пакінуўшы пры гэтым бяз сродкаў для існаваньня дачку (1 год і 3 месяцы) й жонку, якая нідзе не працуе.

Хачу нагадаць Вам, паважаныя спадары, што СССР ратыфікаваў міжнародныя пагадненьні па правах зьняволеных. Таму зьвяртаю Вашую ўвагу на грубейшыя парушэньні гэтых правоў у турме, дзе мяне трымаюць у дадзены момант.

Падкрэсьліваю – людзі, якія тут знаходзяцца, – невінаватыя, суда над імі пакуль яшчэ не было, таму яны павінны карыстацца тымі-ж правамі, што й астатнія грамадяне. На іх цалкам распаўсюджваецца прынцып прэзумпцыі невінаватасьці.

Пералічу сьціслa ўмовы нашага існаваньня: у нашай камэры, разьлічанай на 8 чалавек, знаходзіцца звычайна 15–18 чалавек. Людзі сьпяць проста на бэтоннай падлозе, паветра бракуе, вільготнасьць практычна дасягае 100%, дыхаць няма чым, цела пастаянна пакрытае потам, але прыняць душ можна адзін раз у 10–15 дзён. Унітаз знаходзіцца проста ў камэры й распаўсюджвае невыносны смурод. Са столі капае вада й сыплецца тынкоўка, прагулка замест належных 60 хвілін доўжыцца 15–20. Дворыкі для «выгулу» маленькія, на 15 чалавек памерам 2 на 3 мэтры. Акно зачыненае, і вызначыць, які час сутак, немагчыма.

Мэдычная дапамога практычна адсутнічае. Так, напрыклад, пры паступленьні ў турму, кроў ва ўсіх бярэцца адной іголкаю, якую прапалоскваюць халоднай вадою, і гэта завецца аналізам на СНІД! Стаматалягічная дапамога адна – пры малейшым зубным болі зуб вырываюць. Знаходзячыся ў такіх умовах, падсьледныя ў любы момант могуць захварэць на сухоты. Асабліва мяне ўразіў наступны факт: у нашай камэры ёсьць мужчына сталага веку. Вось ужо колькі дзён ён не прымае ежы й ляжыць нерухома на падлозе пад ложкам, але на ўсе нашыя звароты да адміністрацыі вязьніцы чуем адзін адказ: «Пакуль дыхае, няхай валяецца». Перадача прадуктаў БЯЗЬВІННЫМ людзям дазволена адзін раз у месяц, сувязі са сьветам аніякае.

Усяму міжнароднаму супольніцтву вядома, што галоўнай рысаю нашае дзяржавы ёсьць пагарда да чалавека, але тое, што яна робіць са сваімі грамадзянамі ў сьледчым ізалятары, назваць інакш, як злачынства супраць чалавечнасьці, нельга, а многія ўтрымліваюцца тут па некалькі год.

Мяркую, не адзін чалавек добрае волі, тым болей дыпляматычныя прадстаўнікі дэмакратычных дзяржаваў і міжнародныя праваахоўныя рухі ня маюць маральнага права маўчаць, калі роўныя ім перад Богам людзі ўтрымліваюцца ў падобных умовах.

Паважаныя спадары!

Справа, як Вы разумееце, не ў маім лёсе, я гатовы несьці свой крыж да канца. Адзіная мэта, якой я-бы хацеў дасягнуць, зводзіцца да наступнага: давесьці да Вас і міжнароднае грамадзкае думкі інфармацыю пра тое, што ўсе словы камуністычнага кіраўніцтва пра дэмакратызацыю й гуманізацыю палітычнае сістэмы – міф. Міф, неабходны для атрыманьня фінансавых і маральных крэдытаў на Захадзе з мэтаю ўратаваньня свае ўлады й далейшага зьдзеку над сваім народам.

Але гэтая дапамога можа стацца кіем з двума канцамі. Ваенная дыктатура можа ў любы момант накіраваць сваю зброю супраць сусьветнае дэмакратыі. Я не адкрываю ісьціну, але прашу яшчэ раз падумаць пра гэта.

Паважаныя спадары!

Я цудоўна разумею, што Вы ня ў стане рэальна дапамагчы ўсім, хто да Вас зьвяртаецца, але калі Вы палічыце патрэбным і магчымым прыслухацца да маіх словаў і па магчымасьці маральна мяне падтрымаеце я буду Вам шчыра ўдзячны.

З глыбокай павагаю,

**Валеры Сядоў.**

12 траўня 1991 г.

**г. Менск,**
**вул. Валадарскага, 2**
**УЖ15/ИЗ1**

**P.S. Як паведаміла Надзея Дударава, адвакат В. Сядова, у сьледчым ізалятары ён ужо другі тыдзень трымае палітычную галадоўку.**



ЭКСПЭРЫМЕНТ



# СПЭЦПРЫЁМНІК: По рублю за суткі

*«Беспредел» парушэньня правоў чалавека, прыніжэньня чалавечае годнасьці, які пануе ў савецкай пэнтэнцыярнай сістэме, добра вядомы, але па-сапраўднаму ацаніць гэта можна толькі асабіста трапіўшы ў сфэру яе ўплыву. Прапануем вам нататкі Андрэя Рамашэўскага, які быў арыштаваны за пікетаваньне Пракуратуры БССР з патрабаваньнем вызваленьня Валерыя Седова.*

22 траўня 1991 г. за пікетаваньне будынку пракуратуры з патрабаваньнем вызваленьня Валерыя Сядова я быў затрыманы работнікамі РАУС Цэнтральнага раёну.

У пастарунку пасьля высьвятленьня мае асобы й складаньня пратаколу аб затрыманьні з паказаньнямі двух ілжэсьведкаў (супрацоўнікаў міліцыі, якія сьцьвярджалі, што я «перашкаджаў праходу супрацоўнікаў пракуратуры й наведвальнікаў») пачаўся мой першы перагрус (вобыск). У мяне адабралі кайстру, матузкі, пашпарт, грошы, гадзіньнік і нават акуляры.

Затым я быў зьмешчаны ў камэру папярэдняга зьняволеньня – пакой памерам прыблізна 2 на 4 мэтры. Пад стольлю круглыя суткі гарэла даволі яркая лямпа, а мацаванае салідными кратамі незашклёнае акно выходзіла ў дворык РАУС. Зразумела, што на голых дошках пры вулічнай тэмпэратуры й амаль дзённым сьвятле выспацца немагчыма. Але горш за фізічныя нягоды была поўная няпэўнасьць становішча: я не арыентаваўся ў часе, ня ведаў, колькі чакаць суда й г.д.

Пасьля бессоннае ночы шчыра ўзрадаваўся першаму жывому чалавеку – міліцыянту. Мне вярнулі усё адабранае, пасадзілі ў машыну й пад канвоем адвезьлі ў суд.

Суд, які разглядае адміністратыўныя справы, складаецца з аднаго чалавека. У невялічкім габінэце – судзьдзя й два міліцыянты-ілжэсьведкі. Адваката няма.

На маё пытаньне: ці магу я быць прыцягнуты да адказнасьці за пікет – дзеяньне, што ня мае юрыдычнага азначэньня, – адказалі, што пастановаю Вярхоўнага суда пікет атаесамляецца зь мітынгам, таму й артыкул на яго такі самы. Дыялёг прыкладна такі:

–Што-ж такое пікет?

–Якая табе розьніца! Бачыш – напісана: прыроўнены да мітынгу.

–А можа я не пікетаваў, а проста з плякатам стаяў?

–Паўтараю: пікет прыроўнены да мітынгу.

Яны не палічылі патрэбным зачытаць нейкі абвінаваўчы вырок, але кажуць, што, паколькі штрафаў я плаціць не намераны (а я абяцаў заплаціць), давядзецца мне адпачыць трое сутак. Вырок канчатковы й абскарджаньню не падлягае.

–Выведзіце грамадзяніна.

Міліцыянты адвозяць мяне ў спэцпрыёмнік-разьмеркавальнік – мейсца, дзе адседжваюць тэрміны да 15 сутак. Шмон на ўваходзе ў спэцпрыёмнік той самы, што ў РАУСе, праўда, пакідаюць акуляры. Пасьля шмону без аніякіх тлумачэньняў мяне вядуць па турэмным калідоры й зьмяшчаюць у камэру №1, як высьвятляецца – «адстойнік». Там ужо сядзяць трое, яны шчыра спачуваюць мне й ня могуць уцяміць, за што мяне пасадзілі – няўжо простае стаяньне з плякатам можна параўнаць з пьянай бойкаю...

Вечарам, калі мінула больш сутак з моманту затрыманьня, адчыняецца кармушка, і нам даюць вячэру. Клясічная турэмная баланда, ячная каша на вадзе бяз масла й цёмная цёплая вадкасьць, што завецца гарбатаю. Незадаволены мэню, я прымаю рашэньне трымаць галадоўку, што сустракае гарачую падтрымку маіх сукамэрнікаў: яны атрымліваюць невялічкі дадатак да свае пайкі. Неўзабаве пасьля падачы ежы нас рассаджваюць па розных камэрах. Мяне, на ўсеагульнае зьдзіўленьне, садзяць у камэру №10. Так званая камэра «бяз вываду». Вязьні зь іншых камэраў прымусова працуюць на трактарным заводзе й маюць звычайнае кармленьне. З камэры «бяз вываду» можна выйсьці толькі тады, калі скончыцца ўвесь тэрмін. Пайка ў ёй – паўбохана хлеба на суткі й вада з пад крана.

...У камэры скрозь суцэльную заслону тытунёвага дыму бачу людзей, якія гуляюць у карты. Мой прыход сустракаецца зь відавочным ажыўленьнем. Мяне распытваюць, прапануюць пад'есьці, запаліць. Народ даволі прыязны. Паводле складу злачынства – «кухонныя байцы» й бомжы. Усе, апроч аднаго малдаўскага ўкраінца, кіроўцы-дальнабойшчыка, – беларусы.

Усё жыцьцё ў камэры праходзіць, у асноўным, на нарах. На іх сьпяць, ядуць, гуляюць у карты, шпацыруюць туды-сюды: вольнае падлогі амаль няма. Апроч нараў у камэры ёсьць унітаз і вадаправод.

Расклад дня даволі просты. Раніца. Прачынаемся ад холаду (голыя дошкі, укрыцца няма чым, акно амаль не зачыняецца). Чакаем сьнеданьня. Пошукі цыгарэтаў. Гэта адна з важнейшых праблемаў: перадачы ў спэцпрыёмнік афіцыйна забароненыя, самі сядзім бяз вываду з камэры. Ня стану выдаваць сакрэтаў, як нам удавалася атрымаць колькі папіросаў ці хаця-б жменю бычкоў, адзначу, што гэта галоўная падзея дня. Калі здараецца гэты цуд, пачынаецца гульня ў карты й чытаньне абрыўкаў старых газэтаў, што невядома як і калі трапілі ў камэру. Абед. Ізноў пошукі нікаціну. Ізноў карты. Асабліва цяжка звыкнуцца з поўнай адсутнасьцю часу. Арыентавацца можна толькі па ўсходзе й заходзе сонца й па кармёжцы, якая, праўда, даецца нерэгулярна..

На сканчэньне хачу адзначыць, што трохсуткавы «адпачынак» абышоўся мне ўсяго ў тры рублі. Кліентам спэцпрыёмніку даводзіцца плаціць «за паслугі» па рублю ў суткі. Так што нават за знаходжаньне за кратамі трэба разьлічвацца.

**Андрэй РАМАШЭЎСКІ**

Навіны
5 ліпеня, 4'1991

**Рэдактар Алесь Суша**
**Нумар падрыхтавалі:** Кастусь Вашчанка, Кастусь Войтка, Алена Галаўчак, Павел Данейка, Юры Дракахруст, Лілія Карабко, Аляксандар Лазоўскі, Ірына Лазоўская (нам. рэдактара), Уладзімір Панада, Юры Рагуля, Андрэй Рамашэўскі, Павел Тушынскі.
**Заснавальнік** Зянон Пазьняк. Ліцэнзія №67. Меркаваньне аўтараў публікаваных матар'ялаў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі й кіраўніцтва БНФ. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе й не вяртае.
**Адрас рэдакцыі:** 220050, Менск, вул.К.Маркса, 25-79. Тел. 27-06-04.

Типография. г. Орша, ул. Минская, 3. Сп. печати офсетный. Объем 2 п. л. Тираж 13 тыс. Зак. 2990.